# Панас ПРУСАК



Міколавы апавяданні

# Заходні накірунак








СПРАВА

**Прусак, П.**
Заходні накірунак. Міколавы апавяданні. / Панас Прусак. -
Брылі: Справа, 2012. - 23 с.

Чарговая падарожная паэмка Панаса Прусака, у якой ён распавядае пра тое, як ягоны аднавясковец Мікола Яцкоў атрымаў ад Сакрата Яновіча запрашэнне на ўдзел у "Беларускім Трыялогу" у Крынках і як пачаўся той шлях ад Брылёў у заходнім накірунку.

## **У с т у п .**

**Мне, Панасу, тут патрэбна**
**Ўсё агледзець, бо – глядун:**
**Бачу золата і срэбра,**
**Для адных – паэт-пявун**
**Для другіх – рыфмач заўзяты,**
**У якога тут не так:**
**І  памер, маўляў, гарбаты,**
**І  праз рыфму пэўны брак…**

**Не пайшлі  б, браткі, вы долам! –**
**Так  я  крытыкам скажу.**

**Мой сусед  Яцкоў Мікола[1] –**
**Ой, сябрук – вам далажу!**
**У хату зойдзе, павітае, –**
**Ад культуры чалавек!**
**І  гаворка  ж  залатая –**
**Так  і  слухаў  бы  ўвесь  век!**

**Вось  і  ўчора  надвячоркам,**
**Як каровы ўжо прыйшлі,**
**Клямку ён маю пашморкаў,**
**Сеў, нібы  Гарсія  Лорка[2],**
**І, каб чулі ўсе Брылі[3],**
**З непадробленым імпэтам –**
**Справу маеце з паэтам! –**
**Распачаў аповед свой.**

## **З а п р а ш э н н е .**

**“Ой, Панасе, я   ж  –  герой!**
**З  беластоцкіх ажно Крынак**[4]
**Запрашэнне атрымаў!**
**Справы ўсе свае адрынуў,**
**Хоць зашмат, дарэчы, спраў,**
**І  паехаў.  Бо пазваў –**
**Божа  ж мой!  – Сакрат Яновіч**[5] **–**
**Найвядомы беларус!**
**Нейкі вырашыў нанова**
**Там зрабіць ён землятрус:**
**З  усяе – ого! – Эўропы**
**Назапрошваў сябрукоў –**
**Роднай мовы ўзвіць Акропаль,**
**І  -  каб рэха ўсцяж вякоў!”**[6]**…**

**Змоўк Мікола, нечакана**
**Захлынуўшыся слязой…**
**Вось яна, браткі. – абранасць!**
**Во  з  кім побач!  Божа  ж  мой!..**

**А  Мікола мой тым часам**
**Супакоіўся  і  зноў**
**З  успамінамі сам-насам, –**
**Паплылі жывінкі слоў…**

## **М а с т а к о ў ц ы .**

**“Ну, вядома  ж,  мой ты братка,**
**Я  без жонкі  –  нікуды:**

**Ала[7]  трэба для парадку,**
**Ёлкі-палкі-жалуды!**

**Ды  й  наогул:  за  кардонам[8]**
**Йна  ніколі  не  была  –**
**Не ўзнімалася  з  тым  звонам**
**І  тым  цветам не цвіла.**

**Да таго  ж, спяваць нам трэба:**
**Мастакоўцы  мы  усё  ж!**
**Мы без песняў – як без хлеба!**
**Нас заўжды на песні множ![9]**

**Сам Яновіч нас паслухаў**
**І  сказаў:  *"Ого, аднак!***
***Трэба  копіі  тых зрухаў,***
***Бо  Яцкоў, бач, не лайдак!***
***Нават голас нейкі мае –***
***Не бяда, што не Кабзон![10]***
***Вунь паэтаў як зганяе***
***Пад  утульны  парасон!"…***

**Нам Сакратава здзіўленне  –**
**Нібы той жывы бальзам.**

**П а д р ы х т о ў к а .**

**Усё зрабілі мы  ў  імгненне:**
**"Дому Польскага"[11] спеў брам,**
**Візаў строгіх два дазволы,**
**Пошук спонсараў  –  прыколы![12] –**
**Запакоўка хатулёў**

**І з Брылёў у Магілёў.**

**А спякота - mamma mia![13]**
**Лета ўрэшце падплыло, –**
**Сэрца аж спацела ные,**
**Аж дыханне заняло.**
**Але – трэба!.. Абшчапіўшы**
**Непад'ёмны той хатуль,**
**Мы туды, цягнік дзе свішча**
**Й машыніст трымае руль.**

**Ну, да Васі Навічонка[14]**
**Мы забеглі: ён – ого! –**
**Даў даляраў незлічона –**
**Цэлых трыццаць! І яго**
**Мы за гэта помніць будзем**
**І ў той Польшчы не забудзем –**
**Нейкай жэсці трэба йму,**
**А навошта – не майму.**

## В а к з а л .

**Вось цягнік "Унеча – Гродна"[15].**
**Нумар "пяць" вагон. Натоўп.**
**Як бы той народ гаротны**
**Нам у плечы не натоўк!..**

**Зашчаміліся. Чакаем –**
**Можа, Саша[16] падбяжыць.**
**Во – прабег! Крычым, гукаем –**
**Аж стары вакзал дрыжыць.**

**Падляцеў. Зубоў зіхценне –**
**Нават тамбур пасвятлеў.**
**А ў наступнае імгненне**
**Засіпеў гудочны спеў,**
**І дарога пачалася, –**
**Дзе ты, Гродна? Сустракай!..**

**Апынуліся мы ў часе,**
**Побач з намі – родны край.**

## Вагон.

**А ў вагоне тым плацкартным**
**Шавяленне, ўздыхі, шум –**
**Просты люд тут, без пагарды,**
**У асяроддзі нейкіх дум.**

**Пахапалі ўміг бялізну,**
**Разбурчэўшыся пра кошт.**
**Тут вам не сацыялізма –**
**Гэта *там* было ўсё грош!..**

**І, паклаўшыся на лаўкі**
**Хто куды, хто як, хто дзе,**
**Загарнуліся ў сон даўкі, –**
**Ну, і мы ў той грамадзе.**

**А, тым часам, грукацела**
**Ноч пад нашым цягнікам –**
**У гісторыю ляцела**
**Безаглядна і нагбом…**

**Ля Гародні навальніца**
**Над вагонамі кружыцца**
**Пачала дажджом кудлатым**
**У бліскучых, звонкіх латах.**

## Сустрэча.

**Вось і горад. *“Здаць пасцелі!”***
**Мітусня, як і заўжды.**
**Стоп, машына!  Паляцелі!..**

**Гляньце: Дзіма![17] Ой, гады**
**Не бяруць яго, халера, –**
**Усё такі, які і быў:**
**Хударлявы, як фанера,**
**Вагі  граму не набыў!**

**Сын яго, Ілля[18], адразу**
**З  рук хатуль пачаў ірваць:**
***“Дзядзька, дай сюды, зараза!***
***Буду я дапамагаць!”…***

**Ад вакзалу, нібы танкі,**
**Ля ракі Гараднічанкі[19],**
**Уздоўж  цагляных  сараёў**
**Мы  прабраліся дамоў.**

**Ледзь да пятага паверху**
**Той “хрушчобы”[20]дапаўзлі;**
**Я з натугі  аж  заперхаў, –**
**І  нашто нам хатулі?..**

**Шэсць гадзін. І сон пануе**
**У кватэры той. Сядзім.**
**Нам гарбату прапануюць.**
**П'ём. Маўчым. У столь глядзім.**

**Тут і людзі паўставалі:**
**Серафімаўна - "*Марго*"[21], –**
**Яе ведаў нават Сталін!**
**Гэта ж, братка, ого-го!**

**І Наталля, жонка Дзімы.**
**І дачка іх Вольга тут –**
**Нас вітаюць, ходзяць міма,**
**Бо адзіны тут маршрут.**

## Ш п а ц ы р .

**Ну, а потым па Гародні**
**Паглядзець пабеглі мы –**
**Як жыве тут люд заходні**
**І якія тут дамы.**

**Дзіма – за экскурсавода:**
**Паказаў і расказаў**
**Пра палацы і згароды,**
**І пра рэха даўніх спраў.**

**І навошта ў медыцыну**
**Ён папёрся – не пайму.**
**От гісторыкам бы – грымнуў!**
**Краю роднаму свайму**
**Ён прыйшоўся б даспадобы…**

**Дактароў жа – да хваробы,**
**Як усюткіх прусакоў**
**Ці настырных тых гракоў.**

**Калі мовіць аб паходзе –**
**Спадабаўся Гродна нам:**
**Ёсць тут чыннасць у народзе,**
**Уяўленне ёсць аб згодзе**
**І - сталічны нейкі гам.**

**Старажытных забудоваў –**
**Каб мы так усе жылі!..**
**Гэта ў нас пад Магілёвам**
**Абаронцамі былі**
**Кожны трэці ці чацвёрты –**
**Немцы усё й расцёрлі ў пыл**[22]**.**

**І навошта быць упёртым,**
**Каб затым парваць стос жыл?..**

**Ды затое хутка будзе**
**Магілёў *Героем*!**[23] **Вось!**
**Зажывуць тады ж там людзі!**
**Вечна будзе весялосць!..**

**На кладзішча завярнулі**
**Паглядзець, як справы тут, –**
**Нешта, штосьці, дзесьці чулі,**
**Як убачылі – капут:**
**Ні адзінай агароджы!**
**Як так можна – не пайму!**
**Мо, няма на гэта грошай?**

**Мо, жывуць тут па-свайму?..**

**Кветкі, чыннасць, цішыня**
**І - нябёсаў вышыня…**

**Дзень каціўся ў цёплы вечар.**
**Быў маленькі шчэ размах:**
**Завітаў да нас з далечы**
**Чорны, стомлены Манах[24]…**

**З о н а .**

**…Раніцой, з суседкай Галяй**
**Мы на гродзенскім вакзале**
**У чарзе і не стаялі:**
***“Вам да Кузніцы?”*[25] – *“Вядома!”***

**Пад вакзальнай столлю гоман.**
**І нарэшце дзверы зоны**
**Адчыніліся, і мы,**
**Быццам з плену ці турмы,**
**Ламануліся на волю.**

**Там – знаёмае да болю:**
**І ліхія пагранцы,**
**І ў цывільным малайцы,**
**І вачасты мытнік строгі:**
***“Ой, з якое ж вы аблогі?***
***З Магілёву? Быць не можа!***
***Што схавалі? Добжэ, добжэ!*[26]**
***Ну, праходзьце – там цягнік!”***

**І пачаўся наш адлік**
**Той вандроўкі непаўторнай…**

**К о д а .**

**Ой, Панас, – вось так мажорна**
**У жыцці шчэ не было!**
**Эх, куды ж нас занясло!..**

**Ну, аб гэтым, братка, потым –**
**Замарыўся нешта я.**
**Заўтра рана на работу –**
**Спраў там розных дах..я.**
**Давідзэня!”**[27]
**І ў хвіліну**
**Па Брылях прашамацеў.**

**Завядзе яшчэ ў маліну!**
**Ой, пачуецца той спеў!..**

*22 – 24 ліпеня 2003 г.*
*29 жніўня 2005 г.*

## Заўвагі і тлумачэнні.

**1 - Мікалай Адамавіч Яцкоў – дырэктар Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна.**

**2 - Гарсія Лорка Федэрыка (1898-1938), іспанскі паэт і драматург. Адна з галоўных ідэй яго паэтычнай творчасці – магчымасць дыялога паміж людзьмі, кожны з якіх уяўляе асобны свет. Растраляны франкістамі. На беларускую мову яго творчасць перакладаў Р.Барадулін.**

**3 - Вёска ў Магілёўскім раёне Магілёўскай вобласці.**

**4 - Мястэчка ў Беластоцкім ваяводстве (Польшча), недалёка ад польска-беларускай мяжы. Вядома тым, што там нарадзіўся, жыве і працуе пісьменнік Сакрат Яновіч.**

**5 - Сакрат Яновіч нарадзіўся 4 верасня 1936 г. у мястэчку Крынкі Беластоцкага ваяводства (Польшча) у сям'і шаўца, Канстанціна Яновіча, які меў таксама і трохгектарную гаспадарку. У школе спрабаваў пісаць вершы па-польску і па-руску. У 1950 годзе адправіўся з Крынак у "вялікі горад Беласток", дзе закончыў электратэхнікум (1955), а затым (завочна) аддзяленне беларускай філалогіі Настаўніцкага інстытута (1962). Працаваў журналістам у штотыднёвіку "Ніва", кіраваў аддзелам галоўнага праўлення Бела-**

**рускага грамадска - культурнага таварыства. У 1973 годзе завочна закончыў факультэт польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Пратэстуючы супраць бюракратызацыі ўлады, быў вымушан пайсці на “чорную работу” – рабіў кладаўшчыком, тэхнікам бяспекі працы, што ўзбагаціла яго жыццёвымі назіраннямі. Быў старшынёй Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку (1976-1981). У апошнія гады ўсё больш займаецца палітычнай дзейнасцю, змагаецца за роўныя правы беларусаў Беласточчыны з палякамі. Адзін з заснавальнікаў Беларускага незалежнага выдавецтва (1981-1987). Старшыня партыі Беларускае дэмакратычнае аб’яднанне (з 1990 г.).**

**Як празаік С.Яновіч дэбютаваў у 1956 г. на старонках беларускага штотыднёвіка “Ніва”. Аўтар зборніка апавяданняў і мініяцюр “Загоны”, аповесці “Сярэбраны яздок”. У перакладзе на польскую мову выйшлі яго кнігі прозы “Вялікі горад Беласток”,“Забыцці”, “Сцяна”, “Самасей”, “Малыя дні”, “Трэцяя пара”, а таксама напісанае для палякаў эсэ “Беларусь, Беларусь”, якое выклікала вялікую палеміку, прыцягнула ўвагу да патрэб беларусаў Польшчы. Проза С.Яновіча вызначаецца філасафічнасцю, глыбокім псіхалагізмам.**

**6 - “Беларускі Трыялог” – сустрэчы аўтараў штогодніка “Annus Albaruthenicus” (“Год Беларускі”) у мястэчку Крынкі Беластоцкага ваяводства (Польшча). Штогоднік выдае С.Яновіч. Больш падрабязна аб гэтым – у публікацыі ча-**

**сопіса “КРАЙ – KRAJ. Polonica - Albaruthenica – Lithuanica” (г.Магілёў) № 3-4 (11-12) 2003 г.:**



## ЧАРГОВЫ “ТРЫЯЛОГ” У КРЫНКАХ

**У Беларусі некалькі сэрцаў.**

**Адно з іх, гарачае і няспыннае, б’ецца на Беласточчыне ў старажытным мястэчку Крынкі на вуліцы з легкакрылай назвай Сакольска ў доме, дзе жыве дзіўны чалавек – Сакрат Яновіч.**

**Што гэта – дзівацтва ці сапраўдная мужнасць – быць беларусам, біцца за беларускасць, кідацца па-донкіхоцку на змрочныя ветракі абыякавасці і бяспамяцтва?! Але ж Сакрат Яновіч – вельмі разумны Дон-Кіхот. Ён спачатку ўважліва глядзіць, думае, разважае, уладкоўвае ў руцэ цяжкое кап’ё, прымерваецца і толькі потым, разагнаўшыся, дакладна пацэліць у патрэбнае месца. Ён заўсёды ведае што рабіць і як рабіць. І робіць! Сакрат Яновіч – жывы прыклад таго, як думка, рэч нематэрыяльная, змяняе хаду гісторыі.**

**Кажуць. што імя адбіваецца на лёсе чалавека. Старажытны Сакрат таксама пільна ўглядаўся ў будучыню… Па нашаму ж Сакрату ўсё проста: без беларускай нацыянальнай ідэі не адбудзецца адраджэння Беларусі. Аднак любую ідэю – а тым больш нацыянальную – трэба адшліфоўваць, аграньваць, рабіць з бясформеннага алмазу не-**

паўторны брыльянт. Тут намаганнямі аднаго толькі чалавека, нават такога апантанага, як Сакрат Яновіч, не абыйсціся: трэба калектыўны розум, талака. І не проста пасядзець, пагаманіць "за жыццё" дый разысціся – тут трэба, каб думкі клаліся ў друкаваныя радкі. Напісанае ж – застаецца!

Так нарадзіўся "Annus Albaruthenicus" ("Год Беларускі") – часопіс еўрапейскага кшталту, які скіраваны ў Еўропу. А з ім узнікла чатыры гады таму і "Villa Sokrates", каб выхаваць народжанае дзіцё і правесці яго праз гады сталення.

Стратэгія задумкі была простая і ясная: калі ты хочаш быць, патрэбна, каб цябе ведалі. Беларусь – частка Еўропы, значыць, беларушчыну трэба ўводзіць у Еўропу. Сакрат Яновіч да сёняшняга дня не можа зразумець, як гэта ў дзесяцімільённай Рэспубліцы Беларусь ні ў каго не ўзнікла такая задума, недарагая, заснаваная выключна на аўтарытэтах. Даць трыбуну еўрапейскім інтэлектуалам, дасведчаным у беларускай культуры, на аснове незвычайнай, на першы погляд, канцэпцыі: беларускае не па-беларуску, а небеларускае па-беларуску. Найперш як праява экспансіі беларускага, а ўжо потым – еўрапеізацыі беларусаў.

Жывым дадаткам да "Году Беларускага" паўсталі і "Беларускія Трыялогі" – сустрэчы аўтараў штогодніка, якія звычайна адбываюцца на маляўнічым хутары Лапічы ля Крынак. Ад Лапічаў да беларускай мяжы крыху больш за кіламетр, таму няма адчування адарванасці ад Бела-

**русі: вось яна – побач. І ў гэтай геаграфічнай невыпадковасці свой сэнс: пра беларускае лягчэй гаварыць, адчуваючы на патыліцы дыханне Беларусі.**

**Свет пабачылі ўжо тры нумары яновічава дзіцяці. У ліпені гэтага года адбыўся ўжо чацвёрты "Беларускі Трыялог", патронам якога ўпершыню з'явілася афіцыйная асоба – маршалак Беластоцкага ваяводства Януш Кжыжэўскі. Здаецца, такі рэверанс у бок Сакрата Яновіча, змучанага думкамі аб тым, дзе знайсці фундатараў, невыпадковы: Польшча збіраецца ў Аб'яднаную Еўропу, а там існуюць пэўныя і жорсткія правілы павагі і падтрымкі нацыянальных меншасцей. Для польскіх улад Сакрат Яновіч як той выратавальны круг – вось, маўляў, мы беларусаў падтрымліваем! Нават прэстыжная еўрапейская прэмія імя Анджэя Дравіча – і тая ў беларуса!..**

**У гэтым годзе ў спякотныя ліпеньскія дні на лапіцкім узмежку сустрэліся вядомы сацыёлаг Рышард Радзік з Універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, прафесар Эльжбета Чыквін з Беластоцкага універсітэта, доктар Майкл Флемінг з Оксфардскага універсітэта, прафесары Андраш Золтан і Лаяш Пальфальві з Будапештскага універсітэта, перакладчыкі Чэслаў Сэнюх з Варшавы, Генрык Берэзка з Берліна і Ян Бурлыка з Гродна. І мне з маёй жонкай Алай на гэтай сустрэчы была адведзена свая роля: кожны вечар Трыялога аздабляць канцэртам з песень на вершы вядомых бела-**

**рускіх паэтаў.**

**І былі тры незабыўныя дні: ад раніцы даклады і творчыя дыскусіі, удзень вандроўкі па святых месцах крынкаўскага наваколля з абавязковымі захапляльнымі аповедамі Сакрата Яновіча: у крушнянскай мячэці – пра польскіх татараў, у гжыбаўшчыцкай царкве – пра гісторыю праваслаўя ў гэтым былым кутку Беларусі, у Супрасльскім манастыры – пра доўгі шлях, што вядзе да храма, ля старажытных муроў крынкаўскай жыдоўскай бажніцы – пра былоеі незваротнае… А ўвечары, крыху змораныя за дзень сябры Трыялогу па-апостальску рассаджваліся за доўгім сталом, запальвалі свечкі, і над лапіцкімі прыцемкамі ўзляталі песні на вершы Гілевіча, Законнікава, Бураўкіна, Акуліна. А калі аднойчы ўсе дружна падхапілі гілевіцкую “Песню бярыце з сабой…”, падумалася: абавязкова возьмуць! І панясуць яе, беларускую песню, па еўрапейскіх шляхах. Бо адгукнуліся на вокліч Сакрата Яновіча, паверылі яму і пайшлі побач з ім…**

**7 - Ала Міхайлаўна Яцкова – жонка Міколы Яцкова.**

**8 - “Кардон” – дзяржаўная граніца, мяжа.**

**9 - Маецца на ўвазе, што Мікола і Ала Яцковы актыўна займаюцца песеннай творчасцю: ён, як кампазітар (больш за 800 песен на вершы беларускіх і рускіх паэтаў), яна, як паэт (напіса-**

**ла 12 песен).**

**Таксама з'яўляюцца і выканаўцамі створаных песен.**

**10 - Кабзон Іосіф Давыдавіч (н. 11.09.1937 г.), расійскі эстрадны спявак. Народны артыст Расіі, Украіны, СССР. Прафесар. З 1959 года саліст Усесаюзнага радыё. Прапагандыст і першы выканаўца песень А.Пахмутавай, А.Астроўскага, А.Фельцмана, Я.Фрэнкеля, Э.Калманоўскага, М.Тарывердзіева і інш.**

**11 - "Дом Польскі" належыць Магілёўскаму аддзяленню грамадскай арганізацыі "Саюз палякаў на Беларусі". Быў адкрыты ў 1996 г. на сродкі Асацыяцыі польскай садружнасці г.Варшавы. Займаецца культурна-асветніцкай дзейнасцю. Тут дзейнічаюць клубы – моладзевы, жаночы, скаўцкая дружына, суполка польскіх урачоў. Аказвае кансультацыі тым, хто мае сумесны бізнэс с палякамі. Ёсць свой відэаклуб, дзе праглядваюцца мастацкія фільмы, атрыманыя з відэатэкі пры Амбасадзе Рэспублікі Польшча ў Беларусі. Праводзяцца заняткі па вывучэнню польскай мовы. "Дом Польскі" прымае ўдзел у штогадовых выездах 12 кастрычніка на месца бітвы з гітлераўскімі войскамі 1-й Польскай пяхотнай дывізіі імя Т.Касцюшкі ў пасёлак Леніна Горацкага раёна. Займаецца бясплатным аздараўленнем у Польшчы магілёўскіх дзяцей, якія вывучаюць польскую мову. Тут адзначаюцца рэлігійныя каталіцкія святы.**

**12 - Маецца на ўвазе тое, што Мікола Яцкоў паспрабаваў знайсці спонсара: папрасіў Уладзіміра Ільіча Мажорава, старшыню Брылеўскага сельскага Савета, напісаць пісьмо на імя Аляксея Аляксеевіча Кірыленкі, які ў той час працаваў генеральным дырэктарам холдзінга "Аблхарчпрам". Аляксей пісьмо тое ўзяў, абяцаў дапамагчы. а потым паведаміў, што Пётр Фёдаравіч Тараймовіч з Аблсельгаспроду, які курыраваў той холдзінг, не згадзіўся на такую растрату дзяржаўных грошай.**

**13 - З італьянскай мовы: *"Мама мая!"* ці, можа, *"Матухны светы!"***

**14 - Васіль Сцяпанавіч Навічонак – даўні сябра Міколы Яцкова, "хросны бацька" Яцкова-паэта: у верасні 1984 г. выпусціў на старонку магілёўскай раённай газеты "За камуністычную працу" першую нізку вершаў маладога паэта. Працаваў у аддзеле культуры Магілёўскага райвыканкама, на магілёўскім радыё, галоўным редактарам абласнога тэлебачання. Зараз галоўны рэдактар газеты "Веснік Магілёва".**

**15 - Цягнік № 391 "Унеча – Гродна": прыбыццё на станцыю Магілёў 17.37, адпраўленне з Магілёва ў 18.00, прыбыццё ў Гродна ў 6.11.**

**16 - Аляксандр Шумскі – старэйшы сын Алы Яцковай.**

**17 - Дзмітрый Віктаравіч Рыбкін – урач-тэрапеўт. Нарадзіўся і вырас у Гродна. Скончыў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Працаваў у Крычаве, і ў гэты періяд пазнаёміўся з Міколам Яцковым.**

**18 - Ілля Рыбкін – сын Д.Рыбкіна.**

**19 - Невялічкая рачулка ў цэнтры Гродна, больш нагадвае ручай.**

**20 - Народная мянушка дамоў, якія шырока пачалі будавацца пры М.С.Хрушчове, калі было абвешчана *"Наша мэта – камунізм!"* і пачалося шпаркае перасяленне людзей з баракаў і камуналак у асобныя кватэры з акрэсленым наборам камунальных паслуг.**

**21 - Маргарыта Серафімаўна Дружыніна-Рыбкіна – маці Д.Рыбкіна, вядомы ў Гродна медык і педагог.**

**22 - Маецца на ўвазе, што ў перыяд з 3 па 26 ліпеня 1941 г.савецкія войскі і апалчэнцы гераічна абаранялі Магілёў. З 6653 гарадскіх будынкаў былі разбураны ці спалены 3220.**

**23 - Гаворка пра тое, што Магілёву трэба даць зорку Героя за абарону 1941 г., ідзе даўно – яшчэ з тых брэжнеўскіх часоў, калі Смаленску, Туле, Наварасійску далі званне "Герой", а Магілёву "кінулі" толькі ордэн Айчынай вайны І ступені.**

**Апошнім часам размовы ў гэтым накірунку ўзмацніліся. І можа так стацца, што прэзідэнт А.Лукашэнка сваім указам узаконіць заваяваны статус Магілёва і выправіць даўнюю гістарычную недакладнасць.**

**24 - Маецца на ўвазе набытая ў краме і дружна распітая бутэлька малдаўскага віна “Чорны манах”.**

**25 - Кузніца Бяластоцкая – горад на польска-беларускай мяжы, недалёка ад Гродна, праз які праходзяць асноўныя патокі беларускіх дробных бізнэсоўцаў, якія імкнуцца ў Беласток.**

**26 - *“Dobrze”* (польскае) – *“Добра”*.**

**27 - *“Do widzenia”* (польскае) - *“Да пабачэння”*.**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Панас Прусак**
***ЗАХОДНІ НАКІРУНАК***
**Міколавы апавяданні**

***Рэдактар - А.М.Яцкова***

Выдавец

СПРАВА

*№ 69*
*17.06.2012 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
mikolabryl@gmail.com

